# ВІЦЕБСКАЯ ТРЫБУНА




ЖЫВЕ

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНАЕ ВЫДАННЕ | №1 ЖНІВЕНЬ 2000 ГОДА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА БЯСПЛАТНА


## Зьезд, які склікаў народ

Прыняцьцём Акту незалежнасьці Беларусі завершыўся Ўсебеларускі зьезд за незалежнасьць, які прайшоў у сталіцы Беларусі. Акт ў падтрымку беларускае незалежнасьці прымаўся ў перапоўненае залі. Замест плянаваных 800 ва Ўсебеларскім зьездзе ўзялі ўдзел 1210 дэлегатаў з усіх рэгіёнаў Беларусі.

Чарговая хваля інтэграцыйных ініцыятываў афіцыйнага Менску вымусіла прадстаўнікоў беларускае інтэлігэнцыі чарговым разам голасна засьведчыць СВАЕ прыярытэты.




Мы - гаспадары на сваей зямлі

«Мы, прадстаўнікі беларускага народу, усьведамляем адказнасьць за будучыню свае краіны», — гэтымі словамі пачынаецца Акт Незалежнасьці, які самі ўдзельнікі зьезду назвалі падзеяй знакаваю. У 1917 годзе ў Беларусі адбыўся першы Ўсебеларскі зьезд. Цяпер, у 2000 годзе, на Ўсебеларускім зьездзе за незалежнасьць беларусы паспрабавалі замацаваць тое, што маюць, — сваю дзяржаўнасьць. У прэзыдыюм зьезду, заўважу, з залі былі запрошаныя сябры легэндарнага Саюзу беларускае моладзі й «Гарту».




Віцебская дэлегацыя на Усебеларускім з'ездзе ▲

Вядомыя пісьменнікі — дэлегаты з'езду ▶

У Акце незалежнасьці адзначаецца: «Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю свае дзяржаўнасьці: ад Полацкага княства, Вялікага княства Літоўскага, Беларускае народнае рэспублікі да сучаснае Рэспублікі Беларусь. Сёньня незалежнасьць Беларусі знаходзіцца пад пагрозаю. Рэальнаю небясьпекаю стаў дагавор аб стварэньні так званае саюзнае дзяржавы з Расеяй, падпісаны прадстаўнікамі беларускіх уладаў, чыя легітымнасьць не прызнаецца ў большасьці краінаў сьвету». Дэлегаты Ўсебеларускага зьезду за незалежнасьць засьведчылі: «Богам і гісторыяй дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву зь яе адвечнымі сымбалямі», а таксама заклікалі ўсіх грамадзянаў Беларусі ды ўсіх суайчыньнікаў за мяжою «згуртавацца вакол ідэі Акту незалежнасьці й бараніць незалежнасьць Айчыны». Дэлегаты таскама зьвярнуліся да йншых краінаў ( і гэты пункт увайшоў у Акт) забясьпечыць гаранты суверэнітэту Беларусі.

Арганізатары разьлічваюць, што Акт незалежнасьці будзе мець вялікі розгалас у Беларусі й за ейнымі межамі. Беларускія незалежнікі спадзяюцца, што Акт незалежнасьці Беларусі ня здолеюць праігнараваць ня толькі расейскія палітыкі, але й палітыкі беларускія. Заўважу, што ініцытыва правядзеньня Ўсебеларускага зьезду належыць нават не столькі палітыкам, колькі грамадзкім дзеячам Беларусі . Адрознасьцю зьезду стала тое, што ў ім брала удзел так званая творчая інтэлігэнцыя — пісьменьнікі, паэты, рэжысэры, мастакі й нават рок-сьпевакі.

Акт Незалежнасьці зьяўляецца пакуль дэкларацыяй, якую трэба напоўніць рэальным зьместам. Менавіта так камэнтуе сытуацыю Аляксандар Старыкевіч, які ачольваў усю арганізацыйную працу па падрыхтоўцы Зьезду. Інтэграцыйную актыўнасьць беларускіх уладаў, на ягоную думку, нельга назваць працэсам неадваротным. Першы нацыянальна арыентаваны ўрад павінен мець шанец вярнуць тое, што перайшло расейцам за часы інтэграцыі. Гэты шанец дае Акт незалежнасьці.

Усебеларскі зьезд завершыў сваю працу — і, як, спадзяюцца арганізатары, праігнараваць ягоныя рашэньні ня здолеюць ні беларускія афіцыйныя ўлады, ні інтэгратары ў Маскве.

**Юрась КАРМАНАЎ**

## Актуальнае інтэрв'ю



**Васіль Шалухін, старшыня Віцебскай Рады БНФ**

## Выбары-00

*З пачатку жніўня дзяржаўныя СМІ распачалі рэкламу выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь. Выбары маюць адбыцца восенню бягучага года. Але апазіцыйная частка палітычнага алімпу не настроеная ўдзельнічаць у гэтым «палітычным фарсе». Пазіцыя адносна няўдзелу дэмакратаў у восеньскіх выбарах была зацьверджаная на леташнім Кангрэсе дэмакратычных сілаў. З другога боку дэмакратычная грамадскасць Беларусі схільная лічыць неабходным арганізацыю татальнага кантролю за выбарамі. Пра восеньскія выбары, пра сучасны стан апазіцыйных сілаў Беларусі распавядае каардынатар Каардынацыйнай рады палітычных партыяў і грамадскіх аб'яднанняў г. Віцебска, старшыня Віцебскай гарадской Рады БНФ «Адраджэнне» Васіль Шалухін.*

**– Васіль Пятровіч, у апошнія дні стала вядома, што прадстаўнікі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная грамада» актыўна рэкамендуюць сваім сябрам вылучаць сваіх кандыдатаў шляхам збору подпісаў і праз працоўныя калектывы. Нягледзячы на тое, што імя партыі застаецца «незасвечаным», усім нам добра зразумела, што частка апазіцыянераў ўсё ж такі плануе змагацца за месцы ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь. Гэта не парушэнне існуючых пагадненняў?**

– Па-першае, на выбары пайшлі не толькі сацыял-дэмакраты, але і частка сяброў Грамадзянскае партыі, праўда, апошнія пры гэтым выйшлі з партыі. Да такога кроку іх падштурхнулі ўласныя амбіцыі і надзея на пратэстны электарат, які апошнім часам інтэнсіўна расце. Некаторыя палітыкі спадзяюцца гэта выкарыстаць. Аднак, перакананы, гэтыя спадзяванні марныя і мае адносіны да падобных дзеянняў – адмоўныя. Канешне, вылучэнне кандыдатаў на выбары здрадай не назавеш. Мне здаецца, што гэта сур'ёзная палітычная памылка.

**Працяг на на стар. 2**

## ВЕСТКІ

### «ЛУКАША» ЗАБІЛІ

Што ж, даганяем «братнюю» Расею. Інтэграцыя дармо не праходзіць. Не толькі ў Маскве ды Пецярбургу, але і ў Віцебску навучыліся страляць з аўтаматаў.

У ноч на 7 жніўня у цэнтры горада быў забіты «вор у законе» Генадзь Лукашоў. Па звестках, ён нарадзіўся ў Воршы у 1964 годзе, і, здабыўшы немалую вядомасць у крымінальнай сферы пад мянушкай «Лукаш», у мінулым годзе быў «каранаваны» ў Сочы. Пры выездзе на вул.Даватара пасля адпачынку ў адным з мясцовых «кафэшантанаў» Mersedes-у Лукашова дарогу перакрыў легкавы аўтамабіль, пасля чаго з кустоў распачалі страляніну з аўтаматычнай зброі.

«Лукаш» загінуў на месцы, ягоны спадарожнік застаўся цэлы. Зброю на месцы здарэння не знайшлі. Існуе меркаванне, што Лукаш спрабаваў кансалідаваць мясцовы крымінальны свет. Але «вертыкаль» сярод крымінальнікаў усталяваць не паспеў.

Не жадалася б у хуткім часе пачуць, як старажытны Віцебск называюць крымінальнай сталіцай Беларусі.

**Улас. кар.**

## Актуальнае інтэрв'ю

# Выбары-00

Пачатак на стар. 1

**– Якія наступствы для агульнадэмакратычнага руху Беларусі можа выклікаць удзел часткі апазіцыянераў у выбарах?**

– Думаю, што вялікіх наступстваў не будзе. Відавочна, узнікнуць унутраныя праблемы ў сацыял-дэмакратаў, бо там ёсць і нязгодныя з удзелам у выбарах. Але для агульнадэмакратычнага руху праблемаў не паўстане. Наш рух нашмат шырэйшы і прызнанне ці непрызнанне вынікаў выбараў залежыць не толькі ад сацыял-дэмакратаў, але і ад шэрагу іншых партыяў і ад міжнародных структураў.

**– Сёння ў палітычных кулуарах часта гучыць думка пра неабходнасць байкоту восеньскіх выбараў. Як Вы лічыце, ці можа сапраўды здарыцца такое, што выбары не адбудуцца з-за няяўкі выбаршчыкаў?**

– Я думаю, што не. У апазіцыі сёння вельмі малы інфармацыйны рэсурс. Безумоўна, калі б кожны выбаршчык ведаў, што гэтыя выбары — добра пастаўлены спектакль, што яго чарговы раз дураць, то ён бы, канешне, не пайшоў на выбары.

**– Разам з тым апазіцыя лічыць патрэбным арганізаваць татальны кантроль за правядзеннем выбараў. Ужо сёння ідзе актыўная падрыхтоўка назіральнікаў, у Віцебску плануецца «накрыць» назіральнікамі ўсе выбарчыя ўчасткі. Але ці будзе з гэтага эфект?**

– Эфект ёсць ужо. Ужо сёння мы маем прычыну не прызнаваць маючыя адбыцца выбары за дэмакратычныя, бо парушэнні пачаліся нават на падрыхтоўчым этапе – пры фармаванні выбарчых камісій. Участковыя камісіі на базе навучальных установаў фармуюцца ў той час, калі большасць іх удзельнікаў знаходзяцца ў летнім адпачынку. А гэта значыць, што сабраць сходы, на якіх павінны быць вылучаныя сябры ўчастковых камісіяў, у перыяд летніх вакацыяў немагчыма. Вось вам і першае парушэнне. Безумоўна, яно будзе зафіксаванае, як будуць зафіксаваныя і ўсе астатнія парушэнні, што будуць пад час правядзення гэтага палітычнага спектаклю.

**– Такім чынам, выбары, напэўна, адбудуцца, будзе сфармаваная Палата Прадстаўнікоў, будзе зафіксавана шмат парушэнняў, міжнародная супольнасць не прызнае гэтыя выбары сапраўднымі і дэмакратычнымі. Але што будзе далей? Які Ваш прагноз?**

– Будзе сфармаваная палата ці не – гэта ўжо сур'ёзна нічога не зменіць, трапяць у яе дэмакраты ці не трапяць – гэта таксама няважна. Бо ў краіне, дзе ўлада цалкам належыць адной асобе, парламент ператвараецца ў сход звычайных ківалаў. Знаходжанне на гэтым сходзе дэмакратаў нічога не вырашыць. Я ўпэўнены, што пасля прэзідэнцкіх выбараў мы будзем выбіраць і новы парламент.

Гутарыў Юрась КОРБАН

## НА ПАЛЕТКАХ

# Чым будзьма грэцца?

Лета мінае. І паўстае пытанне: чым будзьма грэцца зімой? Вядома, на пусты страўнік і на печы сцюдзёна. Паглядзець зблізку на працу хлебаробаў нашае вобласці прыехаў ажно сам прэм'ер Уладзімір Васільевіч Ярмошын. Праехаўшыся па гаспадарках Талачынскага, Аршанскага ды Полацкага раёнаў, на паседжанні аблвыканкаму высновы зрабіў наступныя: дзяржзаказу на пастаўку збожжа Віцебская вобласць не выконвае ўжо некалькі гадоў запар. Гэтым разам нічога не зменіцца, што недвухсэнсоўна даў зразумець старшыня аблвыканкаму сп.Андрэйчанка. Аднак становішчам у аграрным сектары Віцебшчыны, як адзначаюць, прэм'ер чамусьці застаўся задаволены. Мабыць таму, што ў астатніх рэгіёнах Беларусі вынікі ніколечкі не лепшыя.

Дзеля прыезду высокага госця калегія аблвыканкамаўскага камітэту па сельскай гаспадарцы і прэзідыум абласной прафсаюзнай арганізацыі за лепшыя паказчыкі на жніве ўзнагародзілі вартых... занясеннем на абласную Дошку гонару. Кантынгент занесеных разнастайны: першыя радкі, па рангу, займаюць кіраўнікі Пастаўскага і Аршанскага раёнаў, далей — кіраўніцтва калгасаў, ну а дзесь унізе — асобныя хлебаробы-працаўнікі. Ці дапаможа Дошка гонару аджывіць беларускую вёску, з якой дзесяцігоддзямі змагаліся, а зараз пакінулі на хуткае самаадвольнае выміранне?

Адным з галоўных камянёў на полі змагання за ўраджай стала праблема крэдыту на энерганосьбіты. Неўзабаве перад візітам на Віцебшчыну У.Ярмошын пабыў на зямлі абетаванай дзеля ўсіх беларускіх інтэгратараў — у Маскве, дзе і спрабаваў па завядзёнцы вырашыць гэтую праблему абяцанкамі вечнага сяброўства. Аднак гэтым разам пачуў, што ў магчымасць Беларусі расплаціцца за папярэднія пазыкі можна будзе паверыць толькі пасля відочных зменаў яе эканамічнага курсу. Але пакуль не мінуць выбары ў Нацыянальны сход, а потым перавабранне кіраўніка дзяржавы, разлічваць на змены, здатныя выклікаць хвалі на роўнядзі свядомасці беларускага «электарату», не даводзіцца. Ці згодзяцца маскоўскія «сябры» падтрымліваць інтэгратараў за адзін энтузіязм у справе яднання? Каб не давялося беларусам ужо гэтаю зімой пакутваць калі не ад голаду, дык ад холаду...

Сабіна РАДЗЬКО



**Уладзімір Ярмошын, прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь**

## ВЕСТКІ

### ПОСПЕХ ГАРАНТУЕЦЦА

У апошнія гады на Віцебшчыне (як і ў цэлым па краіне) інтэнсіўна развіваецца сектар грамадскіх арганізацый. Як грыбы пасля дажджу, растуць новыя недзяржаўныя аб'яднанні. Аднак часцяком грамадства застаецца абыякавым да ініцыятыў, бо няўрадавым структурам бывае складана разварушыць пасіўнае, амаль соннае атачэнне.

Як актывізаваць грамадскасць? Як фармаваць імідж арганізацыі? Якім чынам дасягнуць поспеху? Адказы на гэтыя складаныя пытанні ўжо вядомыя ўдзельнікам трэнінгу «Сувязі з грамадскасцю для некамерцыйнай арганізацыі».

Напрыканцы ліпеня ён прайшоў у Віцебску для 25 прадстаўнікоў «трэцяга сектару» з Віцебскай і Менскай абласцей. Выдатную трохдзённую праграму зладзіў міжнародны фонд «Каўнтэрпарт».

Ён, між іншым, рэгулярна і паспяхова рэалізуе шматлікія адукацыйныя праекты ў віцебскім рэгіёне. Фонд завяваў трывалы давер сярод недзяржаўных арганізацый вобласці.

Ю.С.

### ПЫТАННЕ Ў ЛОБ

Каб зразумець, што хвалюе насельнікаў горада, трэба напрасткі спытацца пра іхныя праблемы.

На днях прадстаўнікі АГП рушылі ў народ, каб даведацца, што за праблемы неабходна вырашыць ў кожным асобным мікрараёне. Партыйцы ходзяць па хатах, праводзячы анкетаванне пра першачарговыя патрэбы.

Вынікі апытання стануць вядомыя дзесьці ўвосень, бо акцыя будзе працягвацца да канца жніўня.

Юрка ЛЯШЧЫНСКІ

### ЕЎРОПА СПАДЗЯЕЦЦА НА ЛУКАШЭНКУ

27 ліпеня з рабочым візітам на Віцебшчыне пабываў кіраўнік Кансультатыўна-назіральнай групы ў Беларусі АБСЕ Ханс-Георг Вік.

На пачатку ён меў гутарку з мясцовымі ўладамі, а затым сустрэўся з апазіцыйнымі сіламі рэгіёну. На абодвух спатканнях гаворка ішла пра будучыя выбары ў беларускі парламент. На сустрэчы з палітычнымі сіламі пасол Вік выказаў надзею, што кіраўніцтва Беларусі саступіць і арганізуе выбары паводле дэмакратычных прынцыпаў.

Н. АЗІРАЛЬНІК

## ПОГЛЯД

# Польшча і Беларусь



**Павел Севярынец, лідар «Маладога Фронту»**

Беларусь і Польшча ў свеце XXI ст. — здаецца, даволі трапнае азначэнне не толькі тэмы, але і перспектывы абедзвюх краін. Чаму? Паглядзім, якія настроі ў беларуска-польскіх дачыненнях дамінуюць зараз. З аднаго боку, Беларусь, якую імкнецца каланіяльна паднавіць Расія, змушана паварочвацца спіною да Еўропы (у першую чаргу, да найбліжэйшае заходняе суседкі Польшчы); з іншага — Польшча, якая ўступіла ў НАТО, мае «зялёнае святло» ў Еўразвяз, дужа ўжо безаглядна развярнулася на Захад і не надта зважае на свае ўсходнія (славянскае, між іншым) заплечча. Абедзве краіны як бы разбягаюцца, кожная ў свой бок, зноўку ствараючы небяспечны вакуум — прывід жалезнае заслоны. Зноў спрацоўвае геапалітычны рэфлекс, які можа давесці да бяды: Беларусь правалiцца ў Расію, а Польшча будзе так далёка ад беларускіх праблемаў, што будзе не ў стане дапамагчы. Стратэгічная гарлавіна Усходняе Еўропы, Міжмора, зноў аказваецца перацятай.

Расія, галоўная палітычная праблема XX ст., толькі тады можа стаць бяспечным, нармальным суседам для Беларусі, калі цяперашні пагрозны правал імперскае ідэі зменіць яе духовы падмурак. Расія сталася змрочнай зонай бальшавіцка-камуністычнае імперыі зла, падпала пад уплыў цемры і дагэтуль — спустошаная — пакутуе бяз Бога ў нямоглых высілках стаць цывілізаванай.

Хто зможа дапамагчы Расіі? Праваслаўная Царква? Здаецца, яе духовы ўплыў пакуль замалы. Амерыканскія грошы? Якія б вялікія яны не былі, іх і так раскрадуць ці пусцяць на чарговую імперскую вайсковую кампанію. Еўрапейская культура? Ды Расія сама, маючы гіганцкую культурную спадчыну, не прымае яе як імператыў.

Расеі можа зараз дапамагчы толькі Сам Гасподзь Бог. Толькі хрысціянскае прабуджэнне можа ўзрушыць нацыю ад акіяну да акіяну — да пакаяння за імперскае мінулае і сённяшнія грахі, да дэмакратыі, цывілізацыі і дабраслаўёнага жыцця, якія заўсёды грунтуюцца на Божае волі. Узгадайце асноўныя падзеі, датычныя паўставання й распаду Расійскае Імперыі: стратэгічнае ўсходнеславянскае супрацьстаянне Масквы з ВКЛ, войны XVII ст., I Зъезд РСДРП у Менску, выручэньне прастолу Мікалая II па дарозе з Магілёўскае стаўкі, магістральны кірунак II сусьветнае вайны, Белавежская Пушча ды развал Савецкага Саюзу, Менск — сталіца СНД, запаведнік рэваншу СССР у сёньняшнім беларускім рэжыме... Усё вырашалася ў Беларусі. Што гэта абазначае? Ці не тое, што менавіта Беларусі наканавана адыграць вызначальную ролю ў духовым выкарыстанні Расеі? Беларускі хрысціянскі рух «на Маскву» будзе самым магутным ударам у сэрца Імперыі «Трэцяга Рыму».

Увогуле паміж імперскім «Трэцім Рымам» і нацысцкім «Трэцім Рэйхам» у XX ст. заставаліся толькі Польшча й Беларусь. Сёння без вялізарнае духовае падтрымкі польскага касцёлу Беларусь, бадай, не здужае. Вось і вынікае: у XXI ст. Польшча і Беларусь павінны быць гатовыя да ўзмоцненае кансалідацыі — ня толькі палітычнае ці эканамічнае, а ў першую чаргу — духовае, хрысціянскае. Разам з Прыбалтыкай і Украінай гэтыя дзяржавы Міжмора, духова перспектыўныя і адаптаваныя да расійскае рэчаіснасці за савецкім часам, як падаецца, здольныя ажыццявіць глабальны духовы прарыў XXI ст. у Расію. Такая наступальная духовая стратэгія, замест палітычна-панічных уцёкаў у НАТО, можа даць нам — і ўсяму свету — не толькі адкрытую на Бога і бяспечную Расію, але і нашы ўласны, агульнаміжморскі хрысціянскі ўздым, засяроджаны на ядры Польшча-Беларусь.

Падрабязнасці і прыватнасці могуць быць абмеркаваныя асобна, але сама ідэя набывае наступную формулу: «Беларусь і Польшча ў супольнасці з краінамі Міжмора ў XXI ст. духовай экспансіяй ратуюць Расію ад імперскага сіндрому, ад панавання бязбожнага зла, ад антыхрысціянскае будучыні, дзеля спакою свету».

Усё светлае і вартае ў гэтым свеце праз 2000 гадоў пасля нараджэння Хрыста робіцца дзеля славы Божае і выратавання людскіх душаў тут, на зямлі, у прыватнасці — у Беларусі, Польшчы й Расіі.

Павал Севярынец

ПОШУК

# «Правільны мент»

## Адстаўны капітан міліцыі шукае генерала.

*У Віцебску яго ведаюць і спарцмены, і крымінальнікі. Ён карыстаецца заслужаным аўтарытэтам між розных пластоў грамадства. Уладзімір Міхайлавіч Арэстаў — былы капітан міліцыі, сённяшні сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі, былы прэзідэнт футбольнага клубу.*

**— Дзе вы атрымалі адукацыю і як трапілі ў міліцыю?**

— Скончыў Ленінградскую вышэйшую палітычную школу МВД. Быў размеркаваны ў Віцебск. Працаваў у палітаддзеле УВД. Да гэтага шмат год працаваў у крымінальным вышуку. І тая работа была бліжэй. Але перавод у вышук быў бы паніжэннем, а паніжаць мяне не было за што. Пяць разоў мае дакументы перасылаліся ў Менск. Нарэшце, мой рапарт быў задаволены, і я пачаў працаваць у крымінальным вышуку. Займаўся барацьбой з арганізаванай злачыннасцю. То была цяжкая, але цікавая праца. Натуральна, браў удзел у затрыманнях і аперацыях. Памятаю, бралі бандытаў проста ў скверы ля будынку КГБ, стралялі ў паветра. І ніводзін доблесны чэкіст не выйшаў на дапамогу. Былі іншыя аперацыі, здаралася трапляць у несамавітае становішча. Адно з затрыманняў пры перадачы буйной грашовай сумы адбывалася на пляцы Леніна. Шмат мінакоў, ды і крымінальнікі былі ўзброеныя. Спрацавалі дакладна, ніхто не пацярпеў, «кантынгент» затрымалі, а ў казну передалі 15 тыс. даляраў.

**— Калі так падабалася праца ў вышуку, чаму пайшлі з ворганаў?**

— Адслужыўшы 15 год, сёе-тое зразумеў. Людзі казалі, што я «мент» правільны. А пайшоў, напісаўшы ў рапарце, што, пакуль у сістэме не адбудзецца зменаў, працаваць не змагу. Звальняўся паўтары гады. Пайшоў годна. Праўда, заўжды песціў думку, што вярнуся — гэта мая прафесія, мой хлеб. Але ў МВД пакуль нічога не змянілася.

**— Вы маеце патэнцыял, валодаючы спецыфічнымі ведамі. Вы дзяліліся імі?**

— Так. У свой час арганізаваў маладзёвы цэнтр пры Віцебскім педуніверсітэце. Гэта быў новы падыход, паслугі па ахове спакою за грошы. Але мэтаю быў не заробак, а адраджэнне папулярных колісь аператыўных моладзевых злучэнняў. Хлопцы падтрымлівалі парадак у інтэрнатах, на дыскатэках, у вучэбных карпусах. Сёння ідэя перададзеная пад нагляд БПСМ і актыўна імі выкарыстоўваецца. Сябры цэнтру былі з усіх вузаў горада. Сёння прыемна хадзіць па райаддзелах міліцыі. Учарашнія студэнты зрабіліся прафесіяналамі, і мне здаецца, я дапамог у іх фармаванні.

**— Ці праўда, што апошнім часам вы занялiся звыклай працай вышукоўцы?**

— Так. Я спачуваю ідэям Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Я — шэраговы сябра, якімі былі Юры Захаранка і Віктар Ганчар. І мы з сябрамі жадаем аб'ектыўна разабрацца, што адбываецца са знікненнем людзей на Беларусі. Як прафесіяналы мы на што-кольвечы здатныя. Я ведаю сям'ю былога міністра МВД, што стаўся першым са зніклых. Пры яго вышуку я пеў перавагу. Як мянта з правінцыі мяне ўсур'ёз не ўспрымалі. Таму я мог разабрацца ў становішчы, супаставіць факты, зрабіць пэўныя высновы. Свае думкі не хацеў бы пакуль агалошваць у інтарэсах следства.

**— На якія сродкі вядзецца вышук?**

— Наша перавага ў тым, што мы працуем не на дзяржаўныя і не на апазіцыйныя сродкі. З іх фондаў мы не ўзялі ні капейкі, хоць прапановы былі. Вось і мяркуйце самі, за чые грошы мы працуем.

**— Па іншых зніклых вы вядзеце аператыўную працу?**

— Мы выходзілі на Паўла Шарамета. Хацелі супаставіць факты адносна знікнення аператара Змітра Завадскага. Але журналіст, хоць мы яго і запрашалі, ад сустрэчы ўхіліўся. А ўвогуле, усіх зніклых я лічу без вестак прапаўшымі на полі палітычнае вайны.

**— Увогуле, што думае «правільны мент» пра сённяшні дзень?**

— Напрацаваць на аўтарытэт можна не раней як праз пяць год аператыўнай работы. Некаторым калегам я кажу: «Здай пасведчанне і зброю, здымі форму і наведзі парадак. Калі ты гэта не ўмееш, то аўтарытэту ў цябе няма.»

Наша краіна аднойчы адчула сябе набліжанай да свабоды. Але вельмі хутка яе ў нас забралі. Мае бацькі — франтавікі. Па іх расповядах я ведаю, што хтосьці заўжды павінен падняцца з акопу першым. Спачатку на адно калена, потым на поўны рост. І сёння не ўсе могуць адседжвацца ў акопах, чытаючы газеты, супастаўляючы факты, робячы высновы, бяздзейна і бязмоўна. Я пайшоў з ворганаў капітанам, нехта — падпалкоўнікам. І старэйшы па званні задумаецца: чаму «кэп» можа, а я — не.

Ды таму, што хтосьці заўжды павінен быць першым.

Быць першым — заўжды складана. Асабліва ў нашай краіне.

**Яўген ПАЛЬЦАЎ**

АСОБЫ

# Я не прадпрымальнік



**— Падарунак жонцы...**

*Калі вам трэба трапіць у тропікі, шукайце іх... у Віцебску. Прыязджайце ў Батанічны сад, знайдзіце там невялікі будынак асветніцкага цэнтру «Планта» і спытайце Алега Іванавіча Алейнікава. Ён і праўдзе вас па унікальным свеце трапічнай флоры.*

У гэтага чалавека зусім няма вольных дзён. Але на працу ён штодня ходзіць як на свята. Прычына простая: ён любіць сваю справу, сваю аранжэрэю і кожнага са сваіх пітомцаў — 1052 віды раслін. На столькі частак і падзелена ягонае сэрца, бо ўсіх зялёных сяброў ён клапатліва даглядае, як бацька уласнае дзіця.Сваімі ведамі Алег Іванавіч заўсёды рады падзяліцца з кожным, хто пажадае, бо ён не толькі стваральнік аранжэрэі і галоўны там «мічурынец», але і цудоўны экскурсавод.

У «Планце» вы даведаецеся, што існуюць расліны-камяні, пабачыце невялікі, але сапраўдны баабаб. Тут задарма можна паглядзець на мураю, якую ў мінулыя стагоддзі магла дазволіць сабе мець адно сям'я японскага імператара. І яшчэ, да прыкладу, пабачыць першую «вопратку» Адама і Евы і на свае вочы пераканацца, што на фігавым дрэве «мадэлі» не горшыя за кардэнаўскія. Ды ці мала новага можна ўбачыць у «Тропіках Алейнікава»?

Інтэрв'ю я брала, удыхаючы водар экзатычных кветак. Але перанесціся у Афрыку ці Паўднёвую Амерыку перашкаджала думка: нават прыгажосць на поўначы Беларусі мае праблемы.

### АСВЕТНЫ ЦЭНТР, А НЕ КАМЕРЦЫЙНЫ.

**— Алег Іванавіч, нашае знаёмства пачалося з Вашага катэгарычнага сцвярджання: «Я не прадпрымальнік!» Як Вы вызначаеце свой статус?**

*— Кожнаму, хто прыходзіць, я з парогу абвяшчаю: «Гэта не крама і не камерцыйная фірма». З самага пачатку праект быў задуманы як асветніцкі цэнтр пры грамадскай арганізацыі «Саюз сяброў саду», старшынёй якога я з'яўляюся. У красавіку 1992 г., калі я толькі пачынаў будаваць аранжэрэю, гэта было арэндпае прадпрыемства, а з 1992г. — малое калектыўнае прадпрыемства. І займаемся мы менавіта асветніцкай дзейнасцю, як тое і запісана ў статуце арганізацыі. Сюды з'яўляюцца самыя розныя людзі: малеча з дзіцячых садкоў і студэнты, дактары і рабочыя, кpышнаіты і адвентысты, батанікі і ваенныя. І мы аднолькава радуемся ўсім. Памятаю, нейк прыйшоў стары год пад дзевяноста. Дык я за ім крэсла па аранжэрэі цягаў, каб ён мог сядзець. Здараецца, за дзень бывае 5-6 школьных экскурсій. І штораз атрымліваюцца розныя лекцыі. Намагаюся не паўтарацца, інфармацыі больш як дастаткова: нават калі пра кожную расліну распавядаць толькі адну хвіліну, на лекцыю пра ўсе 1052 віды спатрэбіцца 17 гадзін 32 хвіліны. Гэтага не змогжа праслухаць нават самы зацікаўлены наведвальнік, ды і што можна распавесці за адну хвіліну? Таму працягласць лекцыі — хвілінаў 30-40, і гэты час людзі праводзяць змястоўна і карысна. У мінулым годзе, калі цвіла архідэя стангапея, наведвальнікі сталі ў чарзе па дзве гадзіны, каб пабачыць росквіт гэтай надзвычай прыгожай расліны.*

**— Калісь Вашыя пітомцы былі звычайнымі семечкамі чаранком, лісточкам ці спорай, а зараз вунь якія прыгажуны вымахалі! Як жа Вы закладалі гэты райскі сад?**

*— Я даўна са свайго вопыту зразумеў, што калі пачынаю рабіць штосьць дзеля грошай — нічога не атрымліваецца. Таму ўзяўся за справу дзеля добрай, патрэбнай ідэі. Тым больш у 1990 годзе было дазволена ўсё, што не забаронена. Дзесяць год таму на гэтым месцы быў яр. Адразу трэ было прывезці зямлі, каб засыпаць амаль тры метры ўглыб. І хатку, і аранжэрэю будаваў сам, па сваіх разліках і на свае сродкі. Галандскі пластык, каб накрыць аранжэрэю коштам 14 даляраў за квадратны метр, сам бы я, канешне, не купіў. Давялося зрабіць адной фірме азеляненне, каб набыць патрэбны матэрыял. Так, пакрысе, праўда, не без перашкоды на добразычлівую, справа рухалася.*

### «МОЙ ДЫПЛОМ — АРАНЖЭРЭЯ»

Больш за ўсё мяне ўразіла, што Алейнікаў — не біёлаг. Па адукацыі ён радыётэхнік. Пасля школы скончыў Мурманскую марахадку, плаваў па морах і акіянах. Потым 18 год адслужыў у арміі. Сам сябе называе «трынаццацігадовым капітанам авіяцыі». У сорак год пайшоў на пенсію. Да таго часу была ў Алега Іванавіча прыстойная калекцыя кактусаў. Яна і дапамагла нарадзіцца ідэі стварэння аранжэрэі. «Бо не ўсе маюць магчымасць абляцець ці абплысці планету, каб пабачыць як шыкоўны расліны свет»,— думаў 10 год таму Алейнікаў.

Вось і злучыліся ў яго жыцці тры стыхіі: вада, паветра і зямля. Гэтыя ж тры кампаненты плюс свята патрэбныя расліне дзеля нармальнай жыццядзейнасці. Дарэчы, па словах Алега Іванавіча, найбольшая памылка людзей — у іх меркаванні, быццам расліна «харчуецца» зямлёй. Але асветніцкі цэнтр на тое і створаны, каб асвятляць.

А яшчэ на тое, каб ствараць праўдзівыя цуды. У Алейнікава квітнеюць і нават даюць плады у аранжэрэйных умовах расліны, якія кветкаводная літаратура азначае як непладаносныя ў штучных умовах. Напрыклад, аморфафалус бульбаносны.

Гэта адзіная аранжэрэя ў Беларусі і былым СССР, куды ўваход вольны дзеля кожнага. У аранжэрэю пры АН БССР у Менскім Батанічным садзе «грамадзяніну з вуліцы» ўваход забаронены. На 1800 кв.м плошчы там гадуецца 1600 відаў трпічных раслін, а даглядаюць іх 28 супрацоўнікаў. Алейнікаў нейк абыходзіцца штатам з 3 чалавек (сам гаспадар, ягоная жонка Вольга Мікалаеўна і памочніца Юля) вырошчваць сваіх 1052 гадаванцаў усяго на ... 100 кв.м.

Таму і едуць спецыялісты з розных гарадоў свету, каб зірнуць на вынікі ягоных ведаў і працы. Але, як у кожнага таленавітага чалавека, знаходзяцца ў Алега Іванавіча ворагі, што найперш кажуць: «Ну што вы да яго ходзіце? Ён жа не біёлаг. У яго няма дыплому.» Дзеля іх Алейнікаў мае поўны годнасці адказ: «Вось мой дыплом — аранжэрэя».

### ПЕЦЯ-ВУНДЭРКІНД

Алег Іванавіч гадуе не толькі трапічную садавіну. Выхоўвае ён і маладыя парасткі, якія, цалкам магчыма, у перспектыве зробяцца яму заменай. Пяцікласнік СШ№10 Пеця Кладаў пасля ўрокаў спяшае у аранжэрэю. «Як на работу»,— жартуе Алейнікаў. У мінулым годзе хлопчык завітаў з мамай на экскурсію і, можна сказаць, закахаўся ў аранжэрэю. Прачытаў шмат спецыяльнай літаратуры з багатай бібліятэкі Алега Іванавіча, дзе маюцца нават кнігі пра кветкаводства, выдадзеныя ў мінулым стагоддзі. (Да слова, сам Пецеў настаўнік зрабіўся паліглотам, каб чытаць замежную літаратуру пра кветкаводства.)

Зараз Пеця, нягледзячы на свае 12 год, цалкам саспеў, каб суправаджаць экскурсіі. Прычым робіць ён гэта як мае быць. «Толькі не рабіся папугаем, імкніся не паўтараць лекцыі»,— раіць Алег Іванавіч.

Ёсць у Алейнікава яшчэ адзін гонар — ягоны выхаванец Ілля Гонараў, які гэтым годам скончыў біяфак БДУ без адзінай тройкі. Так што будуць у «Планце» дыпламаваныя спецыялісты!

### ЗА КОЛЬКІ АБЫХОДЗЯЦЦА 100 КВ.М ТРОПІКАЎ

**— Алег Іванавіч, Вашыя «тропікі» — суперрэнтабельная вытворчасць. Чаму не паставіць справу на камерцыйныя рэйкі?**

*— Гандляваць ведамі — грэх. Ды і праблем з'явіцца болей, чым зараз. Калі пачну браць плату за ўваход — большая палова грошай пойдзе на падаткі. А галоўнае ў тым, што гэта не тавар. У мяне — «дзеці». Я не кожнаму падарую расліну, а толькі таму, хто не загубіць маё «дзіця». А дзеля таго, каб аранжэрэя на нешта існавала, маецца ў нас скрыня дзеля ахвяраванняў. У параўнанні з крамаю «Мармуровы барс», дзе адзін экземпляр каштуе ад 10 да 70 тысячаў рублёў, нашыя расліны можна набыць сапраўды за «сувенірны» кошт.*

**— Але на ўтрыманьне аранжэрэі патрэбныя энерганосьбіты. А іх у падарунак не дадуць...**

*— За 10 год я навучыўся шмат чаму, у тым ліку і круціцца. І яшчэ зразумеў: я патрэбны грамадству, але абсалютна непатрэбны дзяржаве — чынавенства амаль на кожным кроку перашкаджае маёй працы. «Планта» — нібы высла у Батанічным садзе. А сад з'яўляецца базай ВДУ. Ужо амаль год, як мяне пазбавілі энергазабеспячэння. Адзін кВт/г мне абыходзіцца ў 2.5 разоў даражэй, чым бюджэтнай арганізацыі. Самі разумееце, што здарыцца, калі ўзімовы час у аранжэрэі знікне святло. Найбольшая праблема — праблема зімы. У гэтым годзе я перазімаваў, за лета разлічуся з пазыкамі. Хутка сонца зноў паверне на зіму, і трэба думаць, як асвятляць, ацяпляць, дзе шукаць грошы.*

Не разумеюць улады, што служыць Алейнікаў не грашам. Служыць Прыродзе. «Гэтае слова трэ пісаць з вялікай літары»,— пераканаы Алег Іванавіч. Нейк прапанавалі немцы працаваць у іх дырэктарам кветкаводнай фірмы. Адмаўляючыся, адказаў ім: «Я люблю Віцебск і жадаю, каб аранжэрэя была тут».

**Таццяна ЧАБАТАРОВА**

ІМПРЭЗА

# Прынцэса на балі ў Прэзідэнта



Александрына, выпускніца 2-й СШ г. Віцебска

*Часам кожны з нас узгадвае свае «школьные годы чудесные»: улюбёных настаўнікаў, сяброў-аднакашнікаў, першае «выдатна» і апошні званок. А ўжо выпускны вечар, развітальны школьны баль і першы «дарослы» світанак — нагэтульки яркія, хвалюючыя падзеі, што застаюцца ў памяці і праз гады.*

Выпускніцы сярэдняй школы №2 г.Віцебска Александрыне Жалваковай развітанне са школай запомніцца сваёй незвычайнасцю. Дзяўчына з імем прынцэсы пабыла на Прэзідэнцкім балі 28 чэрвеня ў Менскім Палацы дзяцей і моладзі. Туды былі запрошаныя самыя вартыя юнакі і дзяўчаты Беларусі.

**— Александрына, які быў крытэрый адбору удзельнікаў «Рэспубліканскага балю выпускнікоў»?**

— Адбіралі «залатых» медалістаў і ўдзельнікаў рэспубліканскіх алімпіяд ды конкурсаў. Я ў гэтым годзе была прызёрам рэспубліканскай алімпіяды па беларускай мове. У двух выпускных класах маёй школы набралася восем медалістаў. Але выбралі чамусь адну мяне.

Усяго на балі сабралася каля трохсот чалавек. З Віцебскай вобласці — прыкладна трыццаць выпускнікоў, з іх шасцёра віцяблянаў.

**— І як віталі, чым весялілі і частавалі элітную моладзь?**

— На прыступках Палаца нас сустрэлі з аркестрам. Потым адбыўся ўрачысты канцэрт. З віншаваннямі і пажаданнямі выступілі міністр адукацыі Стражаў, міністр культуры Сасноўскі і іншыя дзяржаўныя дзеячы. Уразіла цудоўнае афармленне залы, прыгожыя кампазіцыі з кветак на століках. Уся зала была аздобленая каляровымі шарыкамі з гелем. Са знакамітасцяў на сцэне спявалі Іна Афанасьева і «Палац». Рок-гурт госці прынялі з захапленнем, а вось Афанасьевай апладысментаў трапілася менш. Спявала яна «жыўцом», але чамусь не трапляла пад музыку. З пачастункаў прапаноўвалася салодкае, садавіна, кандытарскія вырабы і безалкагольныя напоі. Нават шампанскага не было. Арганізатары свята, відаць, збаяліся нейкіх эксцэсаў.

Пасля двух-трох канцэртных нумароў абвяшчаўся музычны ці танцавальны перапынак. Калі шчыра, балем гэтае мерапрыемства назваць цяжка.

**— Чаму?**

— Дыскатэка была абвешчаная толькі напрыканцы. Думаю, не адну мяне непакоіла думка: «Калі ж дадуць магчымасць патанчыць?» У рэшце рэшт агульную нецярплівасць заўважылі вядучая і арганізатары, і нам дазволілі «адцягнуцца». Прыкладна а палове на сёмую вечара мы ўжо развіталіся. У аўтобусе на шляху дадому хтось сказаў: «Гэта не баль, а хутчэй дзіцячы ранішнік.»

**— Камусь з дзяўчат пашэнціла патанчыць з Прэзідэнтам?**

— Прэзідэнцкі баль быў без прэзідэнта. У кулуарах казалі, што Аляксандр Рыгоравіч павінен быць на свяце, але ён так і не з'явіўся.

**— Чым запомніцца табе выпуск тысячагоддзя?**

— У фае Палаца моладзі была арганізаваная цікавая выстава разнастайных грамат, медалёў за спартыўныя і іншыя дасягненні, скульптур, малюнкаў, вынаходніцтваў і навуковых прац выпускнікоў. Гледзячы на асобныя з іх, цяжка было паверыць, што гэта створана рукамі ці розумам шаснаццацігадовага чалавека. Так што патэнцыял маладая Беларусь мае!

Было не дужа шмат музыкі, але затое хапала жартаў, смеху, сустрэч з сябрамі і новых знаёмстваў.

**— Ты хвалявалася, рыхтуючыся да балю?**

— Не асабліва. Сукенку мне пашылі прыгожую, з прычоскай асаблівых клопатаў не было. Чаго хвалявацца? Адчувалася стомленасць. Справа ў тым, што за дзень да сталічнага балю прайшоў выпускны вечар у маёй роднай школе. Дарэчы, мне ён спадабаўся нашмат болей. Толькі з-за халоднага надвор'я ў гэтым годзе не ўдалося па традыцыі выкупацца ў Дзвіне. Крыху шкада развітвацца са школай. Карыстаючыся магчымасцю, хачу падзякаваць усім настаўнікам СШ№2.

**— Александрына, ці прадугледжаныя якія-небудзь ільготы пры паступленні удзельнікам прэзідэнцкага балю? Як-ніяк, на яго запрашаліся унікумы?**

— Ніякіх асаблівых ільгот не прадугледжана. Удзельнікі Прэзідэнцкага балю будуць паступаць у навучальныя ўстановы на агульных падставах. Адзінае, чым нас вылучылі — узнагародзілі медалямі з надпісам «Рэспубліканскі баль выпускнікоў-2000».

**— Вашыя планы на будучыню?**

— Жадалася б паступіць на журфак БДУ. Я даўно мару пра прафесійную журналістыку. Мама, пасля некаторых спрэчак, ухваліла мой выбар.

**Паспехаў табе, Александрына!**

Таццяна ЧАБАТАРОВА

АДКАЗВАЕ ПСІХОЛАГ

**Часта, калі ўпершыню бачыш чалавека, адносіны да яго ўзнікаюць мімаволі. А здараецца і так, што пачуцці з часам мяняюцца на супрацьлеглыя. Ад чаго гэта залежыць?**

Ёсць людзі, што нам падабаюцца або не падабаюцца амаль з першага позірку. Прычым гэтыя пачуцці дастаткова трывалыя.

Але чаму так адбываецца? Часта антыпатыю выклікаюць людзі, якія зневажаюць нашыя прадстаўленні пра нешта. Калі, напрыклад, чалавек наўмысна ігнаруе форму адзення ў пэўных абставінах. Альбо паводзіць сябе недапушчальна да сітуацыі. Гэта звычайна зусім невялікая колькасць людзей. І мы лёгка з імі мірымся, хутка забываючыся на негатыўнае ўражанне.

Аднак пэўныя людзі выклікаюць у нас трывалую і яскравую антыпатыю. Прычым розумам мы разумеем, што, у прынцыпе, нічога асабліва дрэннага ў ім няма, але зразумець, у чым справа, цяжка. А іншым разам і варта б стрымаць свае пачуцці, а яны мімаволі выліваюцца дакладна на гэтага чалавека. Калі Вы сустракаеце яго, то адразу ж увесь свет здаецца мярзотным і псуецца настрой.

Тут я не баюся памыліцца, што ўся справа не ў гэтым чалавеку, а толькі ў Вас. Бо спрацоўвае такая асаблівасць чалавечых узаемаадносінаў — механізм псіхалагічнай абароны. У псіхалогіі яна называецца праекцыя — прыпісванне іншым людзям думак і якасцей, што ёсць у нас саміх. Напрыклад, калі мы гаворым: «Ты мяне не любіш», мы хочам сказаць: «Я баюся, што не люблю цябе». Гэта значыць, што такі чалавек дэманструе нам нешта такое, што ёсць у нас саміх і нам самім не падабаецца. Нам здаецца, што той чалавек нам не падабаецца цалкам, хаця, насамрэч, ён проста паказвае нам нас саміх. А формула «выратавання» вельмі простая — паглядзець на сябе і зразумець, што ў нас гэта таксама прысутнічае. Як толькі Вы гэта прызнаеце, адносіны да гэтага чалавека адразу ж мяняюцца. І гэта нармальна. У кожным чалавеку аднолькавая колькасць дабра і зла. Ідэальных людзей няма і гэта добра. Нам не падабаюцца не людзі, а мы самі сабе не падабаемся ў гэтых людзях. Палюбі сябе такім, які ты ёсць на самой справе, і многія людзі стануць больш прывабнымі ў тваім вачах.

***Калі я кажу свайму сябру нешта, я чакаю ад яго пэўнай рэакцыі. А ён ці не рэагуе ўвогуле, ці рэагуе зусім не так. Чаму мы не разумеем адзін аднаго?***

Калі мы чакаем ад іншых пэўнай рэакцыі, гэта від праекцыі — прыпісваньне іншым людзям думак і якасцей, што ёсць у нас саміх. Чаму я чакаю такой рэакцыі? Толькі таму, што, калі б я апынулася ў такой сітуацыі і такім становішчы і мне сказалі б гэта, я б адрэагавала так. І я мяркую, што іншы чалавек зрабіў бы тое самае. Але ён сапраўды іншы чалавек. І з патоку інфармацыі выбраў тое, што дзеля яго з'яўляецца важным, і адрэагаваў пасвойму. Пагэтаму трэба памятаць, што за адным і тым жа словам у розных людзей стаяць розныя паняцці і сэнсы. Каб іх вызначыць, высветліце, што ён зразумеў са сказанага, і зразумееце яго паводзіны. І можа справа ў тым, што Вы недакладна выказалі сваю думку.

А лепш за ўсё проста папрасіць. Калі Вы хочаце, каб Вас пацалавалі, проста скажаць: «Пацалуй мяне, калі ласка, вось сюды». Задавальненне будзе тым жа. А праблем — ніякіх. Іншым разам ён сам хутчэй здагадаецца.

Менавіта так робяць маленькія дзеці. Яны кажуць: «Дай». А дарослыя вырашаюць: даваць ці не. Але па меншай меры яны ведаюць, што хоча дзіця.

***Ёсць у мяне адна сяброўка, якая пастаянна мяне крыўдзіць. Як мне лепей сябе паводзіць у такой сітуацыі?***

Самы просты спосаб высвятліць усе прычыны — спытаць гэтага чалавека, навошта яму так рабіць. Калі Вашая сяброўка раптам паведамляе, што бачыла Вашага хлопца дзесьці, проста спытайце ў яе, навошта яна Вам гэта гаворыць. І ўсё адразу стане на свае месцы. Ва ўсіх астатніх выпадках варта паступіць таксама.

Аксана САЗОНАВА

АДНЫМ РАДКОМ

З 1 жніўня тэлеканалы кампаніі «Альфа Крыс ТВ» (48 канал) і ТВК «Скіф» пачалі выходзіць у эфір з адной студыі. Пакуль што яны, як раней, па-брацку дзяляць эфірны час па днях тыдня і выходзяць пад сваімі назвамі. Але ўжо з 1 верасня тэлеглядачам абяцаюць прапанаваць відочную вытворчасць фірмы "ТВК «Скіф» + 48 канал" альбо «48 канал + ТВК «Скіф».

Зрэшты, колькі не мяняй месцамі складаемыя, сума не зменіцца. Асабліва калі, як у дадзеным выпадку, вялікай розніцы паміж іх вытворчасцю большасць шэраговых гледачоў дагэтуль не заўважала. Будзем спадзявацца, прынамсі, што арыфметыка не маніць, быццам 2 больш за адзін. Значыцца, калі колькасць пяройдзе ў якасць, новы віцебскі канал мае надзею набыць большую папулярнасць за кошт цікавых і разнастайных праграм. Мабыць, ужо пасля 1 верасня на яго будуць пераключацца не толькі дзеля мясцовых абвестак і музычных віншаванняў.



Заснавальнік:
ГА «Цэнтр Маладзёжных Ініцыятываў «Контур»
Адрас для допісаў:
210038, г. Віцебск, п/с 5
Тэлефон/факс:
/0212/ 21-62-35
E-mail: kontur@vitebsk.net HTTP: www.vitebsk.net/kontur

ВІЦЕБСКАЯ ТРЫБУНА

Адказны за выпуск: Сяржук Серабро
Рэдакцыя з аўтарамі ў перапіску не ўступае, рукапісы не вяртае і не рэцэнзуе.
За дакладнасць апублікаваных матэрыялаў адказнасць нясуць іх аўтары.
Друк: ВА Фонд ім. Льва Сапегі.
На правах рукапісу, для унутраннага карыстання.

# ВІЦЕБСКАЯ ТРЫБУНА

№ 1, субота, 27 кастрычніка 2001 года. Выдаецца з кастрычніка 2001 года. Заснавальнік ГА «ЦМІ «Контур» Каштуе 60 руб.





## Вайна палацам

Згодна з праектам бюджэту на 2002 год, насельніцтва будзе аплочваць не менш за 40% сабекошту жыллёва-камунальных паслуг. Пра гэта паведаміў міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі Аляксандр Мількота. Пры гэтым плата за пражыванне чатырох чалавек у трохпакаёвай кватэры падчас ацяпляльнага сезону складзе 47 тысячаў рублёў, трох чалавек у двухпакаёвай — 34 тысячы, двух чалавек у аднапакаёвай кватэры — 23 тысячы рублёў. Калі на пачатку года насельніцтва аплочвала 14% жыллёва-камунальных паслуг, то зараз — 29,3%. Пры гэтым палова кампенсуецца з бюджэту, а астатняе — з абавязковых адлічэнняў прамысловых прадпрыемстваў.

Натуральна, мера вымушаная. Але ж як паставяцца да яе звычайныя грамадзяне, жыхары гэтых самых кватэр? Гэта мы і паспрабавалі высветліць на вуліцах Віцебска. Вось іх адказы. Такая адзінадушнасць пры апытаннях сустракаецца рэдка.

За папярэднія месяцы мы паспелі наслухацца прагнозаў адносна хуткіх зменаў у матэрыяльным становішчы беларусаў. Накшталт павелічэння сярэдняга заробку да 100 у.е. яшчэ да канца бягучага году. Што ж, выбары засталіся ўспамінам, а з імі гучныя словы пра сацыяльную роўнасць. Час вяртаць пазыкі...



**Галіна, працуе ў Дзяржстандарце:**
— Вядома, вельмі адмоўна. Доля аплаты камунальных паслуг адносна зарплаты вельмі вялікая. Калі план будзе зацверджаны, то аплата маёй двухпакаёвай кватэры складзе 30-40% заробку. Гэта цяжка.



**Вольга (беспрацоўная, гандлюе зарobленай у калгасе морквай):**
— Гэта грабеж насельніцтва. Дорага, вельмі. Стаю на ўліку ў цэнтры занятасці, працу прапаноўваюць нізкааплочваемую. Так што для мяне такая сума страшная. Адкуль узяць грошы?



**Людміла, бухгалтар:**
— Канешне, непрыемна, калі ўчарговы раз павялічваюцца расцэнкі. Тым больш пры нашых заробках. Калі павышаюцца якія-небудзь цэны, гэта, па-мойму, заўсёды дрэнна.



**Генадзь, супрацоўнік Цэнтра маркетынгу:**
— Гэта ставіць насельніцтва не на мяжу, а за мяжу галечы — на мяжы мы зараз. Нават для нас з жонкай, хоць мы абодва працуем і маем заробак больш за сярэдні, гэта нялёгка. Калі новыя расцэнкі будуць уведзеныя, сітуацыя стане такой безнадзейнай, што каментару не трэба. Сацыялізм даўно скончыўся. Выбары скончыліся — і тое, што мы бачым — працяг размоў пра ўсеагульны дабрабыт і роўнасць. Фактычна ідзе далейшае размежаванне людзей.



**Пажылы мужчына (пажадаў застацца невядомым):**
— Вядома, адмоўна. Цяжка, канешне, асабліва нам — пенсіянерам.



**Леў, інжынер:**
— Адмоўна. Такога мы не чакалі.

**Гутарыла Сабіна РАДЗЬКО**
**Фота Сержука СЕРАБРО**

## Слова да Чытача

У мяне ёсць мара. Мара зрабіць самую цікавую ў горадзе газету. Сапраўдную газету. Каб гэта была НАША газета.

Дзеля гэтага нам — калектыву рэдакцыі — патрэбная твая, Шаноўны Чытач, дапамога. Не стой убаку, не заставайся абыякавым. Пішы нам і тэлефануй. Раскажы пра свае праблемы, і мы будзем разам іх вырашаць; падзяліся радасцю і бядой, і мы з табой парадуемся ці пасумуем. Не будзь абыякавы да свайго горада ці вёскі — раскажы нам пра іх, і мы памножым твой аповяд на тысячах газетных старонак.

Мы толькі пачынаем. У нас шмат імпэту і мала вопыту. Таму не саромейся нас крытыкаваць. Калі мы надрукуем лухту, скажы: лухта, калі збрэшам — скажы: брахня. Не дазволь нам забыць, што мы — для цябе, і што без цябе мы — пыл струхлелай паперы.

А калі, баронячы Праўду, нам давядзецца ісці краем прорвы, калі раптам нядобрыя людзі захочуць адабраць у нас Слова, не пакінь нас у бядзе, як не пакінем мы цябе. Будзь побач, каб падаць руку.

У мяне ёсць мара...

**Галоўны рэдактар**

*Можа быць, і ад нас у кагось*
*на душы пацяплела,*
*Калі час надышоў*
*пакаленне прыняць усур'ёз.*
*Як калісьці бацькоў,*
*нас юнацтва адлігай сустрэла,*
*Як калісьці бацькоў,*
*нечакана ударыў мароз.*

*Вы даруйце, што пафас*
*так лёгка ў цынізм пераходзіць:*
*—Ну, маўляў, за свабоду*
*на рэйкі паляжам грудзьмі!*
*Толькі ж праўда, здаецца,*
*што наша пара надыходзіць*
*У жыцці да канца непахісна*
*трымацца людзьмі.*

*Нехта сыдзе убок, але хтось,*
*з сівізною на скронях,*
*Цераз памяць палеглых*
*паспее яшчэ прычакаць,*
*Каб жарынку святла,*
*што да болю спякае далоні,*
*З чыстай верай у сэрцы*
*надзейным рукам перадаць.*

**Людміла Сіманёнак**

